# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠĆYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“),
(13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14
**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“,
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 38 (424) — Нядзеля, 5 кастрычніка 1958 — ГОД ВЫДАНЬНЯ 12


# Францыя ўвайшла ў пэрыяд пятай рэспублікі

Нядзеля 28 верасьня 1958 году станецца для Францыі важнай гістарычнай датай. У гэты дзень чацьвёртая француская рэспубліка адыйшла ў гісторыю, і распачала сваё існаваньне пятая рэспубліка. У гэты дзень шляхам агульнанароднага галасаваньня як у мэтраполіі, гэтак і ў заморскіх уладаньнях Францыі была прынятая новая, з чаргі ўжо дванаццатая, канстытуцыя.

Вынікі галасаваньня на карысьць новай канстытуцыі й тым самым новага парадку ў Францыі перайшлі ўсякія папярэднія спадзяваньні. Навет найбольшыя аптымістыя надзеіліся, што за новую канстытуцыю выкажыцца ня больш 60-70% францускага насельніцтва. Тымчасам за новую канстытуцыю прагаласавала 80% галасуючых. Другой неспадзеўкай быў вялікі працэнт удзельнікаў галасаваньня, які далёка перавысіў дасюлешнія ўдзелы ў галасаваньні падчас парляманцкіх выбараў. На асаблівую ўвагу заслугоўвае таксама факт, што вялікі ўдзел у галасаваньні прыняло магамэтанскае насельніцтва Альжыру, якое таксама большынёй 80% выказалася за новай канстытуцыяй.

Сакрэт бліскучай перамогі Дэ Голя ляжыць ня толькі ў зьмесьце запрапанаванай ім канстытуцыі, сколькі ў ягонай собскай асобе й ягонай цьвёрдай наважанасьці вывесьці Францыю з дасюлешняга хаосу й анархіі. Французам ужо настолькі надаела дасюлешняя сытуацыя, бесьперапынныя ўрадавыя крызісы й адсутнасьць стабілізацыі дзяржаўнага жыцьця, што нейкія грунтоўныя рэформы сталіся жыцьцёвай неабходнасьцяй. Пры чым францускія грамадзяне здавалі сабе справу з таго, што такія рэформы можа правесьці толькі моцная індывідуальнасьць, якая цешыцца належным аўтарытэтам і даверам сярод насельніцтва. Такой індывідуальнасьцяй і аўтарытэтам быў адзіны Дэ Голь, які падчас апошняй вайны, у гады найцяжэйшых выпрабаваньняў. выратаваў гонар Францыі, прадаўжаў змаганьне на чужой тэрыторыі супраць наезьніка, зарганізаваў у краіне моцны рух супраціву і ў выніку забясьпечыў Францыі права вялікадзяржавы сярод трох іншых галоўных альянтаў: Задзіночаных Штатаў Амэрыкі, Вялікабрытаніі й Савецкага Саюзу. Таму за новую канстытуцыю й за Дэ Голя галасавалі многія навет тыя, якія зьяўляюцца ягонымі палітычнымі праціўнікамі. Іншымі словамі, вялізарная часьць францускага насельніцтва ў сваім пераканаьні галасавала не за параграфы канстытуцыі й навет не за Дэ Голя, але за новы парадак у краіне, хаця многія напэўна сабе не ўяўлялі, як будзе выглядаць гэты новы парадак на практыцы.

Праект новай канстытуцыі быў задуманы й апрацаваны так, каб адхіліць усе галоўныя прычыны зла ў дзяржаўным кіраўніцтве Францыі. Новая канстытуцыя загарантоўвае шырокія правы для прэзыдэнта й тым самым у некаторай меры прыпамінае яна амэрыканскую канстытуцыю. Між іншымі правамі прэзыдэнта, ён атрымлівае права разьвязаньня парляманту й пераняцьця ў свае рукі ўсёй дзяржаўнай улады ў мамэньце, калі адпаведныя органы знойдуцца ў сытуацыі, у якой ня змогуць выконваць сваіх абавязкаў.

Далей, новая канстытуцыя ўзмацняе ролю ўраду й забясьпечвае яго ад капрысаў парляманту й партыйных інтрыгаў. З гэтаю мэтаю сябра ўраду ня можа адначасна быць дэпутатам парляманту. Новая канстытуцыя выразна прэцызуе кампэтэнцыі парляманту й абмяжоўвае ягоную ролю да законадаўчых функцыяў. Парлямант будзе поўнасьцяй адмежаваны ад урадавых функцыяў і ня зможа так лёгка як дагэтуль, змусіць урад да дымісіі.

Сам Дэ Голь у наступных словах сфармуляваў кампэтэнцыі й заданьні гэтых трох асноўных дзяржаўных органаў: 1. прэзыдэнт ёсьць народным арбітрам, які стаіць панад партыйнымі розыгрышамі; 2. урад ёсьць так задуманы, каб мог кіраваць дзяржаўным жыцьцём краіны; 3. парлямант павінен рэпрэзэнтаваць народную волю й прыймаць законы.

Напасьледак новая канстытуцыя дакладна прэцызуе правы заморскіх тэрыторыяў Францыі на поўную дзяржаўную незалежнасьць. Хопіць калі большыня насельніцтва падчас рэфэрэндум скажа «не», каб дадзеная тэрыторыя аўтаматычна атрымала дзяржаўную незалежнасьць.

Новая канстытуцыя й вынікі галасаваньня над ейным прыняцьцем адкрываюць рад новых праблемаў першараднай палітычнай важнасьці.

Перадусім былі заложаныя моцныя падваліны пад будучае ўнармаваньне балючага і, здавалася-б, бязвыхаднага палажэньня Альжыру. Дзеля таго, што вялізарная большыня альжырскага насельніцтва, ня толькі францускага, але й магамэтанскага, выказалася «так», Альжыр выявіў сваю волю належыць да Францыі. У сувязі з гэтым нацыяналістычныя арабскія тэрарыстыя й створаны ў Эгіпце эгзыльны ўрад незалежнага Альжыру страцілі ўсякі грунт пад нагамі. Цяпер сталася ясным, што гэты альжырскі эгзыльны ўрад ня рэпрэзэнтуе альжырскага насельніцтва, а паўстаў у выніку вонкавых інтрыгаў перадусім тых дзяржаваў, якія яго ўжо вызналі. Як ведама, да гэтых апошніх належыць у першую чаргу Савецкі Саюз.

Спасярод заморскіх тэрыторыяў Францыі толькі адна заходняафрыканская тэрыторыя Гінэя прагаласавала «не». На падставе новай канстытуцыі яна атрымлівае цяпер поўную дзяржаўную незалежнасьць. З аднаго боку для Дэ Голя гэта ўсё-ж такі лыжка дзёгцю ў бочцы мёду, але з другога боку факт атрыманьня поўнай незалежнасьці гэтай тэрыторыі выбівае важны козыр з рук Савецкага Саюзу, які ўсьцяж абвінавачвае Францыю ў каляніялізьме й імпэрыялізьме, накіраваных супраць арабскіх народаў. Гэты факт паказвае, што француская супольнасьць будзе збудаваная толькі на падставе згоды й добрае волі насельніцтва ейных складовых частак.

Напасьледак галасаваньне над новай канстытуцыяй вымоўна паказала, што францускія камуністыя не такія ўжо моцныя, як гэта дасюль выглядала. У дасюлешніх парляманцкіх выбарах у Францыі камуністыя звычайна здабывалі 25% усіх галасоў. У цяперашнімжа галасаваньні над канстытуцыяй супраць выказалася толькі 20% усіх галасуючых, пры чым карткі зь «не» кідалі ня толькі камуністыя, але й іншыя групы, незадаволеныя новай канстытуцыяй, як левыя сацыялістыя, левыя радыкалы й правыя каталікі. Адсюль вывад, што вялікая часьць тых, якія раней галасавалі за камуністых, гэта ніякія камуністыя, а нярэдка навет наважаныя праціўнікі камуністычнай ідэялёгіі. Яны, галасуючы за камуністых, як найбольш скрайнюю апазыцыйную групу, гэтым выказвалі толькі сваё незадаваленьне існуючымі парадкамі ў краіне.

У новай канстытуцыі ўведзены асобны параграф аб палітычных партыях. Гэты параграф гаворыць, што ўсе палітычныя партыі павінны шанаваць прынцыпы нацыянальнай сувэрэннасьці й дэмакрацыі. У сувязі з гэтым яшчэ перад галасаваньнем у Парыжы пашыраліся чуткі, што хутка пасьля зацьверджаньня новай канстытуцыі ўрад Дэ Голя распачне акцыю супраць камуністых і што навет ня выключаецца магчымасьць разьвязаньня камуністычнае партыі. Гэтае апошняе прыпушчэньне зрадзілася ў сувязі з прамовай міністра інфармацыі Сустэля, які абвінаваціў камуністых у змове з альжырскімі тэрарыстымі супраць Францыі. Сустэль v

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Думкі ня толькі аб паэзіі

Чытаючы выказанае Рамановічам і Галубіцкім аб паэзіі на бачынах «Бацькаўшчыны», у мяне таксама зьявіліся думкі, хаця мо менш аб паэзіі, чымся ў сувязі зь ёй і з тымі, што пішуць.

Перш за ўсё трэба згадзіцца з Галубіцкім, што невялікая ад таго шкода (аб карысьці можна шмат спрачацца ці дыскутаваць), што паэты падарожнічаюць разам з сатэлітамі зямлі ці абымаюць у захапленьні Мядзьведзіцу. Іхны рухавік — уяўленьне, а яно-ж бязьмежнае, дык і як-жа натхнёнага паэту можна ўтрымаць пры зямлі? Іншая справа, як хто чытае й разумее. Нам, Беларусам, на недахоп паэзіі наракаць ня прыходзіцца. Наша глеба пладавітая на паэтаў аж занадта, здаецца. Бяда ў тым, што прозы не стае. Дык і глядзіш: купіў сабе ў бібліятэку некалькі беларускіх кніжак, а чытаць няма чаго. Лётаюць там дзесьці ў космасе, плаваюць пад хмарамі, а ці-ж шматлікім хочацца брацца зь імі за ручкі й спадарожнічаць? І бяда у тым, што ці не большыня з тых шугаючых у прасторых не спасьцераглі яшчэ, што на нашай беларускай літаратурнай глебе ляжаць цэлыя няўзораныя дзірваны, рэдка хто зь пішучых асьмеліўся дагэтуль заглянуць у непраходную пушчу, тэмаў, якім трэба прысьвяціць шмат часу і ўвагі.

Што-ж ты, братка, мне пальцам тыцкаеш? — скажа адзін ці другі. Я, як паэта, вольны сярод вольных і то ня толькі ў думках кампазыцыі, але і ў падборцы матар'ялу. Праўда — закінуць тут няма чаго. Вольнаму воля. Але й воля мае свае межы. Чытаеш вунь у прэсе, як і аб чым пішуць на бацькаўшчыне пад прыгонам партыі, і думаеш сабе такое: няўжо-ж у нашых пісьменьнікаў (празаікаў маю наўвеце) на эміграцыі няма ахвоты і сьмеласьці ўзяцца нарэшце за працу, каб хоць часткова адлюстраваць пэрыяд нашага вызвольнага змаганьня за незалежнасьць, час найбольш жахлівага паняволеньня Беларусі? Ня хочыцца верыць. Аднак ад часу апошняе вайны не зьявіўся ніводзін раман ці аповесьць, тэмай якіх было-б ці то змаганьне беларускіх сялян зь ненавіснымі калгасамі, ці то беларускага збройнага змаганьня за незалежнасьць.

Беларускія песьняры й пісьменьнікі ў часе адраджэньня здабылі сабе слаўнае імя таму, што яны першыя будзілі, усьведамлялі, кіравалі народ на змаганьне, насьвятлялі слаўную мінуўшчыну. А ці-ж нашы пісьменьнікі на эміграцыі маюць меншыя магчымасьці за тых першых піянэраў?

Беларуская эміграцыя і народ чакаюць на новых волатаў слова, што сталі-б на вышыні Купалы й Коласа, Гарэцкага і Зьмітрака Бядулі. Гэроі Вяліскага і Слуцкага паўстаньняў, звычайны беларускі селянін, што дзесяцігодзьдзямі змагаўся й яшчэ змагаецца з калгасамі, жаўнер самааховы з часоў нямецкае акупацыі, юнак з СБМ, які пасьля вырас і сяньня шмат дзе стаіць пры стырне беларускае арганізацыі на эміграцыі — вось толькі жменька тых гэрояў, навокал якіх можна й трэба было-б стварыць эпапэі. Гістарычныя-ж тэмы вельмі ўдзячныя тым, што яны, калі добра апрацаваныя, узгадоўваюць новыя пакаленьні. Ці нашы пісьменьнікі маюць маральнае права не зьвярнуць увагі на гэткі каштоўны матар'ял?

Чуеш вунь, што нехта сьвяткуе на эміграцыі трыццатыя ўгодкі свае творчасьці. Шукаеш у бібліятэцы й знаходзіш зборнік вершаў і паэмаў абыймом у нейкіх трыста бачын. І гэта за трыццаць год творчасьці. Пэўна-ж, скажуць, ня ў колькасьці, а ў якасьці цана. Але-ж трыццаць гадоў гэта ня тры месяцы. Шкадуеш, пры такім параўнаньні, чаму Багдановіч не тварыў трыццаць гадоў...

Былі-ж у нас і на эміграцыі розныя «завязкі» і «ўрыўкі» раманаў. Пытаньне: дзе-ж раманы? Сяродкаў няма на выданьне? Гніюць? Чакаюць на ганарар? У чым справа? Беларускае грамадзтва хоча аб гэтым ведаць. Можа-б неяк дапамогу давялося зарганізаваць, каб выдаць. Абы былі напісаныя, вось яно.

Наракаем, што на бацькаўшчыне дрэнна пішуць. Ведаем чаму. Але ня ведаем, зь якой прычыны нашы на эміграцыі мала або зусім ня пішуць. А гэта варта было-б ведаць. Дык мне здаецца, што менш важна тое, хто й як лётае ў прасторах, а важней калі нашыя пісьменьнікі возьмуцца за працу, якая не чакае адкладу.

**К. Акула**

# Канец легенды аб культурнай рэвалюцыі

Газэта «Праўда» з 21 верасьня г. г. апублікавала дакладную запіску Хрушчова «Аб умацаваньні сувязі школы з жыцьцём і аб далейшым разьвіцьці сыстэмы народнай асьветы». У гэтай запісцы Хрушчоў падае свой праект новай рэформы сыстэмы народнай асьветы Савецкага Саюзу. Як адзначана, запіска Хрушчова ўхвалена прэзыдыюмам ЦК КПСС, аднак яна нібы не зьяўляецца канчатковай дырэктывай партыі. Ды й сам Хрушчоў у запісцы папярэджвае, што ідэі аб рэформе школы — гэта асабістыя ягоныя ідэі. Праект рэформы мае быць разгледжаны на пленуме ЦК КПСС, а пазьней перададзены «на ўсенароднае абмеркаваньне». У канцы гэтая рэформа будзе зацьвярджацца Вярхоўнымі Саветамі ўсіх саюзных рэспублік.

Якімі-ж прычынамі выклікаецца неабходнасьці рэформы сыстэмы народнай асьветы ў СССР і які сэнс маюць прапановы Хрушчова?

Дарэчы тут адзначыць, што заўсёды самымі моцнымі прапагандовымі аргумэнтамі камуністычнае партыі былі дасягненьні ў культурным будаўніцтве. Сыстэма асьветы была такая, што давала дарогу моладзі атрымаць вышэйшую асьвету, асабліва ў даваенныя гады, калі ня было ніякіх аплатаў за навучаньне, калі студэнты атрымлівалі стыпэндыі. Паўсталі ўжо пэўныя цяжкасьці, калі былі ўведзеныя аплаты за навучаньне й скарочаныя стыпэндыі.

Прыпомнім цяпер, як на XX зьезьдзе КПСС былі зацьверджаныя дырэктывы што да культурнага будаўніцтва. Згодна пастановы зьезду неабходным было «ажыцьцявіць у васноўным усеагульную сярэднюю асьвету ў гарадох і сельскіх мясцовасьцях шляхам навучаньня дзяцей і моладзі ў сярэдніх агульнаадукацыйных школах (дзесяцігодках) і сярэдніх спэцыяльных навучальных установах». Апрача гэтага былі скасаваныя аплаты за навучаньне ў вышэйшых клясах сярэдніх школаў, сярэдніх спэцыяльных і вышэйшых навучальных установах.

Заместа правядзеньня ў жыцьцё гэтых дырэктываў партыйнага зьезду ў сваёй запісцы Хрушчоў патрабуе спыніцца на абавязковай асьвеце ў межах сямігадовага ці васьмігадовага навучаньня. Ён прапануе, каб пасьля 7—8 клясаў школы ўся моладзь была прылучана да грамадзка-карыснай працы на прадпрыемствах, у саўгасах і калгасах. Ён падчырквае, што ў дасюлешняй сыстэме агульнаадукацыйная школа не давала пэўных навыкаў да вытворчай працы. Дзеля атрыманьня працоўных навыкаў падлёткі векам 15—16 гадоў з 7—8-гадовай асьветай павінны прыпыніць навуку ў школе й перайсьці на працу на прадпрыемстве ці ў сельскай гаспадарцы, дзе набываюць працоўныя звычкі або здабываюць прафэсію ў вадно ці двухгадовай прафэсійнай школе, на каротка-тэрміновых курсах, у брыгадах вучнёўства.

Тая-ж моладзь, што мае жаданьне атрымаць поўную сярэднюю асьвету, павінна навучацца «без адрыву ад вытворчасьці». Яна павінна працаваць на прадпрыемствах і адначасова вучыцца ў вячорных школах ці на курсах завочнага навучаньня. Такім чынам — гэта адзіны шлях падрыхтоўкі для паступленьня ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Каб апраўдаць сваю запраўдную замаскаваную мэту школьнай рэформы, Хрушчоў запэўнівае ў сваёй запісцы, што новая школа створыць роўныя ўмовы навучаньня для ўсіх грамадзянаў. Яна нібы створыць найлепшыя ўмовы дзеля выхаваньня моладзі «ў духу багатырскіх традыцыяў рабочай клясы».

Хрушчоў патрабуе таксама ня толькі перабудаваньня навучаньня ў школах, але, і то галоўным чынам, перабудаваньня выхаваньня моладзі. Ён піша у сваёй дакладной запісцы: «трэба даць лёзунг, і каб гэты лёзунг быў найвышэйшым ідэялам для ўсіх дзяцей, якія паступаюць у школу, што ўсе дзеці забавязаны рыхтавацца да карыснай працы, да ўдзелу ў будаўніцтве ў камуністычнай грамадзе».

У сваёй запісцы Хрушчоў два разы падчырквае, што праект рэформы не накіраваны на скарачэньне маштабаў сярэдняй асьветы ды замены яе 7-мі ці 8-гадовай асьветай. Аднак чым-жа іншым можна гэта выясьніць, калі моладзь, што жадае атрымаць сярэднюю асьвету, ня можа гэтага дабіцца бесьперашкодна, бясь перапынкаў і адрыву ад навукі?

Савецкай прамысловасьці й сельскай гаспадарцы патрэбна грубая працоўная сіла, а ня моладзь з атэстатамі сьпеласьці, зь ведамі далёка большымі, чымся іх патрэба, каб падаіць кароў, прыбраць сьвінарнік ды накарміць калгасных сьвіней. Хрушчоў мала замаскоўвае сваё задаваленьне, калі паклікаецца на тое, што й цяпер сёмую клясу школы канчае ня больш за 80% дзяцей, якія паступаюць у сямігодку. Хрушчоўская рэформа павінна даць штогоду ад 2 да 3,5 мільёнаў падлёткаў непасярэдня пасьля заканчэньня імі 7 і 8 клясаў. Колькі працэнтаў зь іх знойдзецца, каб пры цяжкіх умовах савецкага йснаваньня атрымаць атэстат сьпеласьці? Вельмі мала, тым больш, што навет маючы сярэднюю асьвету, ня кажны будзе мець магчымасьць дастуціцца да вышэйшае асьветы, бо самых ведаў не хапае — трэба яшчэ мець добрую характарыстыку ад камсамольскай і партыйнай арганізацыі, ад прафсаюзу. Адным словам — усе рагаткі абыйсьці ня так лёгка.

Новая рэформа школы, высунутая Хрушчовам, бязумоўна будзе праведзена ў жыцьцё, незалежна ад таго, колькі-б гэты праект не «абмяркоўваўся» народам, хоць і сам Хрушчоў прызнае, што будзе супраціў з боку бацькоў, студэнтаў і пэдагогаў. Іншая справа, ці гэтае мерапрыемства прынясе тыя вынікі, якіх жадае Хрушчоў і паслухмяны яму прэзыдыюм ЦК КПСС? Жыцьцё паказала, што пастаўленае камуністычнай партыяй заданьне выхаваць «новага савецкага чалавека» на працягу ўжо 40 год не дасягнутае. Моладзь імкнецца да асьветы, каб пазьбегнуць нявольніцкай працы ў калгасах і на прадпрыемствах. Новая рэформа школы разьбівае й створаную бальшавікамі легенду аб культурнай рэвалюцыі. Камуністычнай партыі патрэбны былі спэцыялістыя ўва ўсіх галінах народнай гаспадаркі. Цяпер іх хапае. Патрэбна чорная працоўная сіла, якая й будзе ўлівацца на прадпрыемствы, у саўгасы й калгасы ў выглядзе недавучак зь сямігодкамі. Перад поўнай сярэдняй агульна-адукацыйнай школай, а тым больш перад вышэйшай школай камуністычнае кіраўніцтва рыхтуецца пабудаваць сьцяну ды пад прымусам загнаць моладзь на працу.

**В. Б.**

# «Жыдоўскае пытаньне» ў СССР

«Спаміж усіх шматлікіх ахвяраў савецкага тэрору Жыды ў Савецкім Саюзе — найбольш ізаляваныя, найслабейшыя й найбольш безбаронныя. Яны знаходзяцца прыблізна ў палажэньні Жыдоў у перадваеннай Нямеччыне, калі нацыстыя пачалі праграму вынішчэньня . . .»

Гэтым цьверджаньнем пачынаецца артыкул «Антысэмітызм у Савецкім Саюзе сяньня» ў пэрыядычным часапісе «Facts» (Антыдэфамацыйнай Лігі «B'nai B'rith» за жнівень-верасень гэтага году). Часапіс гэты, які выдаецца ў Нью Ёрку, прысьвечаны дзесяцігодзьдзю славутага Жданаўскага ўказу, які адным росчыркам пяра зьліквідаваў жыдоўскае культурнае жыцьцё ў Савецкім Саюзе; 450 жыдоўскіх пісьменьнікаў, мастакоў і інтэлектуалістых заплацілі ў той час жыцьцём.

Артыкул у «Фактс» ставіць сабе за заданьне прааналізаваць сучасныя факты цягласьці антыжыдоўскае савецкае палітыкі і, падругое, разгледзець гэтую палітыку ў сьвятле шырэйшых бальшавіцкіх стратэгічных і палітычных мэтаў, бо — як гаворыцца ў артыкуле — толькі ў такім сьвятле можна зразумець прычыны бальшавіцкае антысэміцкае палітыкі.

Аўтар артыкулу, Дэктэр, пачынае ад аналізу бальшавіцкае нацыянальнае палітыкі. Ён сьцьвярджае, што на тэрыторыі цяперашняга Савецкага Саюзу йснуе больш за 150 розных нацыянальнасьцяў і этнічных групаў. Найбольшай зь іх і палітычна дамінуючай, — у артыкуле так і гаворыцца, — зьяўляюцца Расейцы, пасьля йдуць Украінцы, Беларусы, Грузіны, Армяне й г. д. Царская палітыка прымусовае русыфікацыі пацярпела паразу — нерасейскія народы захавалі сваю нацыянальную сьвядомасьць, мову, літаратуру, фальклёр і звычаі. Бальшавікі, гаворыцца ў артыкуле, — падмянілі царскую аўтакрацыю сваёй собскай палітычнай філязофіяй утапічнага касмапалітычнага сацыялізму. Але й гэтая філязофія, як і царская палітыка, «наткнулася на скалу рэчаіснасьці» — гэтая рэчаіснасьць паказала, што нацыянальнае сьведамасьці паасобных народаў нельга выкараніць. Бальшавікі, пабачылі, што ім не застаецца нічога іншага, як датарнаваць свае тэорыі да гэтае рэчаіснасьці.

На гэта ім спатрэбілася больш за дзесяцігодзьдзе. Урэшце, у канцы 20-ых гадоў, зьявілася гэтая новая філязофія, акрэсьленая славутым сталінскім лёзунгам «нацыянальная (культура) паводля формы, сацыялістычная паводля зьместу».

Як правільна сьцьвярджаецца ў артыкуле, «нацыянальная паводля формы» засталося пустой фармальнасьцяй, шкарлупінай: газэты, школы, кнігі, партыйныя й дзяржаўныя органы ў нацыянальных рэспубліках сталіся «копіяй расейскага дублікату», дакладна малпуючы ў сваіх мовах расейскія формулы. Але «форма» ўсё-такі йснавала: рэспублікі, школы, газэты й г. д.

У Жыдоў палажэньне было спэцыяльнае. У артыкуле падаецца, што пры выбуху першае сусьветнае вайны ў расейскай імпэрыі было каля 5 мільёнаў Жыдоў. Яны былі абмежаваныя ў правох і мусілі жыць у вызначаным геаграфічным сэктары, які складаўся галоўна з часткі Беларусі, Украіны, Бэсарабіі, Польшчы й г. д. Аднак, ня гледзячы на ўсе абмежаваньні, жыдоўскае культурнае жыцьцё цьвіло. Гэты росквіт, — гаворыцца ў «Фактс», — скончыўся разам з бальшавіцкай рэвалюцыяй. Камуністычныя валадары катэгарычна адмаўлялі йснаваньне жыдоўскае нацыянальнасьці: для іх Жыды ня былі ні нацыяй, ні этнічнай адзінкай, ні навет культурна-духовай групай. Паводля Леніна, яны былі кастай, анахранізмам, які павінен хутка зьнікнуць.

У артыкуле чытаем, что ў той час, калі ў дачыненьні да іншых нацыянальнасьцяў бальшавікі былі прымушаныя датарнаваць сваю тэорыю, ідэялёгію, дык у дачыненьні да Жыдоў іхная ідэялёгія засталася нязьменнай, а зьмянілася толькі практыка: жыдоўская нацыянальнасьць практычна прызнавалася. Бальшавікі абмежавалі рэлігійнае жыцьцё Жыдоў да мінімуму, забаранілі гэбрайскую мову, зьліквідавалі арганізацыі, кантакты з Жыдамі ў іншых краёх былі забароненыя. Аднак жыдоўскае культурнае жыцьцё йснавала — у жыдоўскай (jiddisch) мове. З боку бальшавікоў, да яго ставілася тая-ж вымога, што й да іншых нацыянальнасьцяў: яно мусіла быць «нацыянальным паводля формы, сацыялістычным паводля зьместу».

Раптоўны ўдар па жыдоўскай культуры прыйшоў 10 гадоў таму: у 1948 годзе, аб чым мы гаварылі на пачатку артыкулу.

Цікава мімаходам адзначыць, што перасьлед Жыдоў, які пачаўся у 1948 годзе, быў зьвязаны з гэтак званай «крымскай справай»: Жыдоў абвінавачвалі ў тым, што яны мелі намер адарваць Крым ад Савецкага Саюзу й стварыць там незалежную жыдоўскую дзяржаву. З другога боку, іх абвінавачвалі ў тым, што яны хацелі... перадаць Задзіночаным Штатам Амэрыкі Бірабіджан. Як довад падаваўся той факт, што Жыды ў Бірабіджане атрымоўвалі харчовыя пачкі із ЗША. У сувязі з гэтым Жыдоў масава высылалі ў канцлягеры.

Але вернемся да артыкулу ў «Фактс». Там гаворыцца аб дыскрымінацыі Жыдоў у сучасным Савецкім Саюзе. У рэлігійным дачыненьні палажэньне іхнае ў параўнаньні зь перадваенным пэрыядам не палепшылася: ніводная сынагога, разбураная падчас вайны ці раней сканфіскаваная, ня была адбудаваная ці вернута назад; адчуваецца войстра недахоп малітаўнікаў, бо друкаваньне іх не дазваляецца. Тое-ж наглядаецца ў палітычным жыцьці, у галіне асьветы. Калі ў 1937 годзе ў Вярхоўным Савеце было каля 4% Жыдоў, дык цяпер яны складаюць толькі 0,25% усяго складу Вярхоўнага Савету.

Пададзеныя прыклады дыскрымінацыі Жыдоў у галіне асьветы для нас цікавыя тым, што яны датычацца Беларусі. Вось-жа, «паводля зусім надзейных ананімных крыніцаў», — як гаворыцца ў артыкуле, — увесну сёлета, у Менскім Дзяржаўным Унівэрсытэце факультэт гісторыі закончыла 213 Беларусаў, 70 Расейцаў, 40 Украінцаў і 7 Жыдоў; факультэт хіміі — 224 Беларусы, 76 Расейцаў, 41 Украінец і 8 Жыдоў. Пры гэтым падаецца колькасьць Жыдоў у паасобных гарадох Беларусі: у Менску на 412 тысяч жыхароў — 40 тысяч Жыдоў; у Бабруйску на 150 тысяч — 60 тысяч; у Гомелі на 144 тысячы — 15 тысяч; у Магілёве на 106 тысяч — 12 тысяч.

Ня ведаем, зь якіх крыніцаў аўтар браў гэтыя лікі. Зазначым толькі, што ці аўтар, ці ягоныя крыніцы пераблыталі хіба Бабруйск зь Віцебскам, бо колькасьць жыхароў у Бабруйску куды меншая, чымся падаецца ў артыкуле.

Нельга згадзіцца таксама зь першым вывадам аўтара: ён гаворыць, што «прапорцыя Беларусаў, Расейцаў і Украінцаў на ўнівэрсытэце блізка адказвае прапарцыянальным суадносінам гэтых нацыянальнасьцяў у Беларусі». Гэта няпраўда, бо-ж навет паводля савецкіх афіцыйных дадзеных у БССР цяпер больш за 80% Беларусаў. Наезнага элемэнту — асабліва Расейцаў — даволі шмат. Між гэтага наезнага элемэнту ёсьць можа й Украінцы, але-ж ня столькі! Кампактнае-ж масы Расейцаў і Украінцаў — навет такое як Жыдоў у некаторых гарадох — у БССР няма зусім.

Можна згадзіцца з другім вывадам аўтара артыкулу ў «Фактс»: вельмі блізкія да сябе лікі на абодвух факультэтах паказваюць на тое, што суадносіны нацыянальнасьцяў афіцыйна рэгулююцца. Нязначная колькасьць Жыдоў запраўды зьяўляецца довадам дыскрымінацыі. Вялікая колькасьць Расейцаў тлумачыцца, ясна, русыфікатарскай палітыкай бальшавікоў. Але, адкуль узялася такая колькасьць Украінцаў? На гэтае пытаньне адказу не знаходзім.

«Фактс» пералічае цэлы шэраг артыкулаў і фэльетонаў у савецкай прэсе выразна антысэміцкага характару. Ён прыгадвае таксама аб інтэрв'ю якое даў увесну Хрушчоў карэспандэнту газэты

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

# Юбілейны хвальш і запраўднасьць

(Працяг з папярэдняга нумару)

Савецка-расейская ідэя зьліцьця БССР і ЛССР выходзіла бязумоўна з палітычна-тэрытарыялных меркаваньняў. Пакінуць БССР у яе першапачатковых межах, гэта было-б частковым прызнаньнем БНР, наагул прызнаньнем апрычонасьці Беларусі й нацыянальных правоў беларускага народу ды стварыць на будучыню непажаданыя палітычныя камплікацыі. Якраз і час быў падыходны, каб праз стварэньне Беларуска-Летувіскай ССР адарваць ад Беларусі яе ўсходнія землі й прылучыць іх да РСФСР, забясьпечваючыся такім чынам на будучыню ўмовамі для прынагоднага гандлю за гэтыя землі.

Як ведама, апынуўшыся ў умовах польскіх і бальшавіцкіх паходаў у глыб беларускіх земляў, 20 лістапада 1918 году Віленская Беларуская Рада заключыла ўмову зь летувіскай Тарыбай аб утварэньні ў Летувіскай дзяржаве аўтаномнай беларускай адзінкі з Горадзеншчыны, Аўгустоўшчыны й часткі Віленшчыны. Гэты крок Віленскай Рады дыктаваўся меркаваньнем захаваць хоць пэўную частку тэрыторыі Беларусі, зьвязанаю на аўтаномных правох зь Летувой, незалежнасьць якое была больш пэўная ў той час, чымся БНР, бо, як ведама, за незалежнасьць Летувы стаялі Немцы ды й іншыя заходняэўрапэйскія дзяржавы, улучаючы Францыю, Ангельшчыну й навет Амэрыку.

Гэтае супрацоўніцтва Віленскае Беларускае Рады з Тарыбай сталася яшчэ больш цясьнейшым пасьля паразы бальшавікоў у Летуве. Гэтак 25% агульнага ліку прадстаўнікоў у Тарыбе было прызначана беларускім прадстаўніком, а таксама пры Летувіскім урадзе было створана Міністэрства Беларускіх спраў для беларускае аўтаномнае адзінкі з успомненых земляў.

Бальшавікі выкарысталі гэтую «гістарычнасьць», каб зрэалізаваць свой плян разрэзу Беларусі, і, адарваўшы ўсходнія беларускія землі на ўжо ўспомненым I зьезьдзе Саветаў Беларусі, 27 лютага абвесьцілі ўтварэньне Летувіска-Беларускай Савецкай Рэспублікі (ЛітБел) на землях Менскай, Віленскай і Ковенскай губэрняў. На чале ўраду гэтага новага твору былі пастаўлены летувіскі камуністы Міцкевіч-Капсукас, а старшынства ягонага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту абняў Расеец Мясьнікаў. Зь Беларусаў, на становішча заступніка камісара асьветы, быў уведзены ўва ўрад ЛітБел адзін толькі Чарвякоў. Аднак і гэты штучна створаны бальшавіцкі твор зусім бязьдзейнічаў, папершае таму, што ён не атрымаў ніякіх кампэтэнцыяў для вядзеньня дзяржаўнага жыцьця — усе ягоныя «дзяржаўныя» справы вырашаліся у Маскве й камандаваньнем Заходняга фронту, — падругое, што ён быў чужы як для Беларусаў, так і для Летувісаў.

У беларускай савецкай гістарыяграфіі цяпер прынята найменш, або й зусім, не ўспамінаць пра гісторыю другога абвешчаньня БССР. Зь ведамых прычынаў: няма чым пахваліць «запраўды народную» нацыянальную палітыку камуністычнай партыі, Леніна й Сталіна. Другое абвешчаньне БССР наступіла 31 ліпеня 1920 году выданьнем так званай «Дэклярацыі аб абвешчаньні Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі». У гэтай дэклярацыі пасьля доўгай бальшавіцкай фразэалёгіі пра «свабоднае народнае волевыяўленьне» й пасьля зазначэньня, што «Беларусь — краіна беларускіх, расейскіх, польскіх і яўрэйскіх работнікаў і сялянаў» (тактыка забясьпячэньня на актуальны распадзел Беларусі між Расейцамі й Палякамі), акрэсьлівалася тэрыторыя будучае БССР: «Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусі акрэсьлівае сваю заходнюю мяжу па этнаграфічнай мяжы між Беларусяй і суседнімі буржуазнымі гаспадарствамі. Мяжа Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі з Савецкай Расеяй і Украінай акрэсьліваецца свабодным волявыяўленьнем беларускага народу на павятовых і губэрнскіх зьездах Саветаў пры поўнай згодзе з урадамі РСФСР і ССРУ» Крыху вышэй яшчэ зазначалася, што «Арганізаваная работніцкая кляса і працоўнае сялянства Беларусі . . ., асноўваючыся на волі працоўных масаў, **выказанай на I зьезьдзе Саветаў Беларусі у лютым 1919 году . . .** абвяшчаюць незалежную Сацыялістычную Савецкую Рэспубліку Беларусі». Як бачым, тактыкай штучнага стварэньня ЛітБел ці «добрай воляй» беларускага народу, выказанай на «I зьезьдзе Савету Беларусі» (Смаленскі акт з 1 студзеня 1919 году пахаваны зусім) бальшавікі вельмі лёгка забясьпечылі за Расеяй усходнія беларускія землі (Віцебшчыну, Смаленшчыну й Магілеўшчыну з Гомельшчынай). Каб-жа захаваць гэты відавочны рабунак, яны дадалі, што ўсходнія межы могуць быць папраўленыя у будучыні «волявыяўленьнем» народу «пры поўнай згодзе ўрадаў РСФСР і ССРУ». А чымжа розьнілася беларуская заходняя этнаграфічная мяжа ад такой усходняй?

(Заканчэньне на 3-ай бачыне)

# Францыя ўвайшла ў пэрыяд пятай рэспублікі

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

сваей прамове перасьцярог, што каб забясьпечыць пятую рэспубліку перад лёсам, які спаткаў чацьвёртую рэспубліку, «трэба безадкладна пасьля рэфэрэндум распачаць акцыю, якая пазбавіла-б камуністычную партыю магчымасьці затручваньня новых дзяржаўных інстытуцыяў у такой ступені, у якой яна затручвала папярэднія». Калі, аднак, да забароны камуністычнай партыі й ня дойдзе, дык і так на падставе новай канстытуцыі урад будзе мець у руках шырокія легальныя магчымасьці, каб спаралiжаваць дэструкцыйную камуністычную дзейнасьць.

На заканчэньне неабходна падчыркнуць, што новая канстытуцыя сама сабой яшчэ не аздараўляе нутранага палажэньня Францыі. Яна дае толькі праўныя магчымасьці для гэтага аздараўленьня. Пры гэтым ня трэба забывацца, што навет найлепшая й найбольш ідэяльная канстытуцыя ані чуць ня зможа паправіць палажэньня, калі францускае грамадзтва ня здолее выказаць дастатковы палітычнага розуму й палітычнай маралі.

Але існуюць усе дадзеныя, што францускі народ справіцца із заданьнямі, якія паставіла перад ім гісторыя. Зарукай гэтага зьяўляецца наважаная воля й адназгоднасьць, зь якімі Французы ў нядзелю 28 верасьня ішлі да галасаваньня над новай канстытуцыяй. Зарукай гэтага ёсьць і асоба генэрала Дэ Голя, які ўзяўся за цяжкае заданьне аздаравіць краіну й першую часьць гэтага заданьня бліскуча выканаў. 5-га кастрычніка новая канстытуцыя ўваходзіць у сілу, а ў лістападзе паводля новай канстытуцыі адбудуцца парляманцкія выбары. Пасьля гэтага адбудуцца выбары новага прэзыдэнта Францыі, на становішча якога агульна прадбачваецца генэрал Дэ Голь. Становішча прэзыдэнта, узмоцненае новай канстытуцыяй, дасьць поўную магчымасьць Дэ Голю таксама бліскуча выканаць і другую часьць узятага ім на сябе заданьня.

**Язэп Каранеўскі**

**Аляксей Кулакоўскі**

# ДАБРАСЕЛЬЦЫ 8)

I от пайшлі мы неўзабаве. Глядзім, ажно-ж за горадам пачынае зьмяркацца. Я ўжо думала вярнуцца назад, паспрабаваць пашукаць дзе прытулку, а Ўладзік цягне йсьці. «Хадзем, мама, скарэй дадому, я павінен заўтра-ж даведацца, хто падаў на тату». «Няхай яго людзі ня ведаюць, кажу я яму, на што ён табе?» Пайшлі, а вецер ўсё большае й большае, мароз із змрокам мацнее. Прайшла адна машына, Ўладзік галасаваў, потым з гоні бег за ёю, — ня спынілася, не ўзяла. Ідзем далей, сьпяшаемся, пакуль дарогу не занясло ды глыбокая ноч не застала. Дайшлі да Жываглодавіч, ты-ж ведаеш, кілямэтраў дзесяць ад гораду. «Больш тут вёсак ня будзе, — кажу я Ўладзіку, — давай папросімся, можа, пусьціць хто нанач». Кажу, а сама думаю: «Хто гэта нас пусьціць? Ні дакумантаў у нас, нічога».

Зайшлі ў вуліцу, дайшлі да аднаго двара, да другога. Цёмна ў хатах, спаць людзі паляглі, ці так проста сьвятла не запальвалі, каб усялякія дарожнікі ня стукацелі ў вокны. Вароты ўва ўсіх высокія, брамкі дашчатыя і, вядома, з завалам з двору. Тут і да вакна не дабярэшся. Каб ня траціць дарма часу й сілы, пайшлі мы далей. Кілямэтраў дванаццаць яшчэ йсьці і ўжо нічога жывога нідзе наперадзе, толькі могілкі будуць кілямэтраў празь сем. Хаця-б ня прыстаць, баюся я. Ня так за сябе, як за Ўладзіка.

З самага ранку нічога ня еў малы, цэлы дзень на холадзе ды ў такім хваляваньні. А вецер усё мацнее, усё больш насупраць нам, а то ўжо й круціць пачынае, замятае дарогу. Два крокі ступіш — і гурба ўпоперак дарогі. Бачу, мой Уладзік па пояс правальваецца ў такія гурбы й ледзь выцягвае ногі. Колькі той сілы ў падлетка, ды яшчэ ня вельмі здараўчанага. На кароткую мэту пацягне: і прабяжыць моцна і падскочыць, а выносьлівасьці мала. Тут мы, старыя, усё-такі дужэйшыя. Узяла я Ўладзіка за руку: «Ідзі, кажу, пры мне». А ён вырывае руку й наровіць ісьці наперадзе, каб прыкрываць ад ветру мяне. Потым паварочваецца й кажа: «Пасядзець бы нам дзе-небудзь хоць хвілінку, каб ногі ня млелі, тады-б ужо ішлі да самага дому». «Ня можна, сыночак, садзіцца, — кажу я яму, — тады яшчэ горш ногі забаляць ды й мароз можа прыхапіць сядзячага».

Гавару я яму так, а сама памаленьку стараюся разьвязаць торбачку з хлебам. Рукі ў мяне адубелі, вось як сяньня, у час гаворкі з Шулавам, нічога рады не магу даць. Потым зубамі сяк-так разьвязала, выняла акрайчык і паклала сабе ў запазуху, каб адагрэўся. Думаю так: дойдзем да могілак, там усё-ж прытулімся дзе-небудзь за дрэвамі, дык я пакармлю Ўладзіка. Век баялася я могілак, за вярсту іх абыходзіла, а тут чамусьці здавалася, што навет на могілках будзе ўтульней і ня так жудасна, як у гале, на дарозе.

Ідзем, ідзем, ужо, здаецца, многа кілямэтраў прайшлі, ужо ў вёсках, глядзішто, першыя пеўні сьпяваюць, а могілкаў усё няма. Пачынаю палохацца, халодны пот на ілбе выступае: «Можа, з дарогі зьбіліся, тады загінем у полі». Але-ж не, нядаўна Ўладзік сказаў, што слуп мінулі, значыцца, ідзем дарогаю. I пад нагамі сяды-тады чуецца цьвёрдае, у полі ўсё-ж-такі мякчэй было-б.

Могілкі гэтыя самыя паявіліся перад намі яшчэ можа гадзін празь дзьве. Па шуму я іх пазнала, а на вока, то мо й ня угледзела-б. Стала прыглядацца, прыгінаючыся аж да сумётаў: запраўды гэта могілкі, ці можа так які лясок? А калі могілкі, то ціможна будзе там як-небудзь прыхавацца ад завірухі? Уладзік ужо ледзьве перастаўляе ногі. Ужо я трымаю яго за руку, іду пярэдняй сама, а ён нічога ня кажа. Гляджу і ўсё сплюшчваю й расплюшчваю вочы, усё маргаю, бо ня верыцца мне, запраўды бачу я нейкія аганькі, ці, можа, гэта ўжо мярэшчыцца мне ад стомленасьці. Мільгне аганёк і патухне. Потым зноў мільгне, або два-тры мільгнуць адразу. Спыніла я Ўладзіка ды шапчу: «Глядзі, сынок, туды, на могілкі. Ты нічога ня бачыш?» «Бачу, кажа, нейкія агеньчыкі, толькі не на могілках, а каля могілак, па гэты бок».

Пахаладзела ў мяне ўсё ўнутры, а страху чамусьці няма ніякага. Толькі Ўладзіка шкада. Лягла я на сьнег і яго за руку пацягнула. «Ляжы, шапчу, можа, Бог дасьць, усё добра будзе».

У галаве ўсё неяк ясна й чыста. Чую, як вецер шуміць у голых надмагільных бярозах, парыпвае сухая галіна, тручыся аб другую. Ляжаць быццам-бы й ня холадна, ісьці было халадней. Пад локцямі — перавал із сьнегу. Тулюся ў яго, як у падушку, і Ўладзіка прыціскаю да сябе. Агеньчыкі мільгаюць усё бліжэй, часам спыняюцца й зноў мітусяцца, то сюды, то туды. Ведаю, што гэта ня цуд, хоць і ля могілак. Ведаю й разумею, што гэта воўчае ганьнё. Ня бачыла я ваўкоў ніколі, але чула ад старых, што яны бегаюць вось так у Піліпаўку й нападаюць на людзей. Успомніла, што цяпер якраз Піліпаўка. Тулю да сябе Ўладзіка, глыбей лезу ў сьнег, а ўсёроўна быццам-бы не баюся нічога. Толькі чую, што нехта быццам заве мяне ціха й ласкава: «Настулька! . .» Услухоўваюся — Андрэяў голас. Гэта там, у горадзе, ён мяне так назваў, калі мы адыходзілі. Што, калі пачуюць нас і нападуць? Вецер быў вялікі й злосны, калі мы йшлі, а цяпер нібы паменшаў, паласкавеў. Каб толькі Ўладзіка аберагчы! Я гарну яго пад сябе й чакаю ветру, сьнегу, страшэннай завірухі. Няхай-бы нас замяло цяпер, занясло сьнегам, лёдам, пачарнелым лісьцём зь бяроз! . . Калі не абаіх, то хаця-б аднаго Ўладзіка, каб яго абмінулі, не заўважылі зьвяры.

Думаю так, а сама ўсё гляджу, усё сачу за аганькамі. Вецер на нас, яны можа й не пачуюць, што тут людзі. А можа загуляюцца на сваім вясельлі ды забудуцца пра нас. Вось пярэдні агеньчык мільгнуў і зьнік, значыцца, павярнуліся бельмы ў другі бок. За ім, гляджу, і другі зьнік, і трэйці. Прайходзіць нейкі момант, і мне здаецца, што ваўкі ўжо недзе за намі. Баюся парушыцца, каб паглядзець. Раптам Уладзік так рашуча ды памужчынску шэпча: «Уставайце, мама, і пабяжым!» Я усхапілася, нібы толькі й чакала гэтага. Пабеглі мы, адкуль гэтыя й сілы ўзяліся. Бяжым, бяжым, дух забівае, ад замеці сьвету ня відно, а мы ўсё бяжым і назад не азіраемся. Спыніліся, калі ўжо ногі пачалі падкошвацца. Я хапаю Ўладзіка за рукі, каб адцерці іх, каб абагрэць дыханьнем яго твар, і намацваю ў яго руцэ расчынены складаны ножык.

— Гэта ваўкі былі? — пытае Ўладзік у мяне.

— Ваўкі, — адказваю. А самой так радасна стала за хлопца, і ўся трывога адлегла ад сэрца. Цяпер ужо я верыла, што мы дойдзем дадому й ніхто нас ня суніме. Падала я Ўладзіку адагрэлы акрайчык, а ён перакроіў яго гэтым сваім ножыкам і аддаў палавіну мне. Мы сталі сьпінамі да мяцеліцы, прытуліліся адно да аднаго й папалуднавалі насьпех, хоць пара падыходзіла, бадай што, да сьнеданьня. Падмацаваліся, пайшлі далей. I вось дайшлі неяк. Уладзік няраз потым успамінаў пра тую ноч. Казаў, што каб і яшчэ гэтулькі йсьці, то ўсёроўна дайшоў-бы. Гэта ён так рады быў за бацьку. Аднак-жа, бедны, доўга хварэў пасьля гэтага.

Даша слухала, аж заслухалася, забыла, што ўжо няма на руках матка. Рукі, выцягнутыя наперад, ляжалі локцямі на стале, тонкія далоні зьлёгку варушыліся.

# Гісторыя „Дабрасельцаў“ ня скончылася

У № 27 «Бацькаўшчыны» быў зьмешчаны артыкул Ст. Крушыніча «У праўдзівым люстры», у якім падаваліся напады савецкага друку супраць аповесьці Аляксея Кулакоўскага «Дабрасельцы», што была надрукаваная ў № 5 менскага часапіса «Маладосьць» і цяпер перадрукоўваецца ў «Бацькаўшчыне». Там-жа было ўспомнена, што ў справе гэтай аповесьці было скліканае спэцыяльнае паседжаньне праўленьня Саюзу пісьменьнікаў БССР і цэнтральнага камітэту камсамолу Беларусі. На паседжаньні, пасьля асуджэньня аўтара ў схвальшаваньні савецкай запраўднасьці, А. Кулакоўскі быў змушаны публічна пакаяцца і ўрачыста прыабяцаць адпаведна перарабіць сваю аповесьць.

Здавалася-б, на гэтым справа павінна была й закончыцца. Тымчасам-жа партыйныя й камсамольскія ворганы ніяк не маглі дараваць маладому беларускаму пісьменьніку тых горкіх для бальшавікоў словаў праўды, якія з поўнай адвагай сказаў Кулакоўскі ў «Дабрасельцах». Пачынаючы ад канца чэрвеня сёлета, калі пачалася ў беларускай савецкай прэсе нагонка супраць Кулакоўскага, аж да апошняга часу пры кажнай нагодзе гэтая прэса бесьперапынна абвінавачвае аўтара ў схвальшаваньні савецкай запраўднасьці, у прадстаўленьні яе ў вылучна чорных хварбах, у паказе савецкага жыцьця ў крывым люстры, у напісаньні й надрукаваньні заганнага з гледзішча ідэйнага й мастацкага (?!) твору. Апрача менскай прэсы, супраць Кулакоўскага й ягоных «Дабрасельцаў» так-жа выступіла й цэнтральная маскоўская прэса.

Аднак ня гледзячы на войстрыя напады на Кулакоўскага, усё-ж такі да апошняга часу заставаўся ён і надалей галоўным рэдактарам «Маладосьці» — воргану цэнтральнага камітэту камсамолу Беларусі й праўленьня Саюзу пісьменьнікаў БССР. Цяпер-жа аказалася, што гэта было толькі да пары, да часу . . .

Нядаўна паявіўся № 9 «Маладосьці» за верасень 1958 г., пад якім ужо няма подпісу Кулакоўскага, а замест яго, як галоўны рэдактар, фігуруе ведамы із сваёй паслухмянасьці партыйны выслужнік паэта Пімен Панчанка. Калі ў ліпені сёлета з прычыны сваей аповесьці быў змушаны публічна каяцца й абяцаць выпраўленьне зробленых памылак аўтар «Дабрасельцаў», дык цяпер з такім-жа каяньнем і абвінавачаньнем Кулакоўскага выступіла рэдакцыя «Маладосьці». У рэдакцыйным артыкуле «За высокаідэйную і высокамастацкую літаратуру», зьмешчаным у № 9 «Маладосьці», чытаем:

«У сьвятле нашых посьпехаў грубым дысанансам прагучала аповесьць Аляксея Кулакоўскага «Дабрасельцы», надрукаваная ў пятым нумары часапісу «Маладосьць», якая ўжо атрымала рэзкую адмоўную ацэнку ў друку.

Рэдакцыя часапісу «Маладосьць» прызнае, што яна дапусьціла грубую памылку, апублікаваўшы на сваіх старонках заганную ў ідэйных адносінах і слабую з мастацкага боку аповесьць А. Кулакоўскага «Дабрасельцы».

А. Кулакоўскі, будучы галоўным рэдактарам «Маладосьці», надрукаваў сваю аповесьць, не абмеркаваўшы яе ні на рэдкалегіі часапісу, ні ў Саюзе пісьменьнікаў БССР. Тав. Кулакоўскі вызвалены ад абавязкаў галоўнага рэдактара часапісу «Маладосьць».

Далей Кулакоўскі абвінавачваецца ў тым, што ён

«. . . усю ўвагу ў аповесьці «Дабрасельцы» ськіваваў на паказ ценевых бакоў жыцьця, заняўся вышукваньнем толькі дрэннага. Тым самым ён адышоў ад прынцыпаў сацыялістычнага рэалізму. У цэнтры ўвагі пісьменьніка — носьбіты зла. Старшыня калгасу Шулаў толькі і думае, ці добра накормлены яго вяпрук. Старшыня сельсавету Мокрут — хабарнік, п'яніца, бяздушны чыноўнік. Ён на ўсіх наганяе страх сваімі злоснымі вокрыкамі, паклёпамі, даносамі. Міліцыянер Ціхоня — тупы выканаўца волі Мокрута. І іншыя вобразы аповесьці (сакратар сельсавету Печка, фінагент Заткла) таксама людзі адмоўныя і навет агідныя.

Такім чынам, А. Кулакоўскі тэндэнцыйна падыйшоў да адбору для аповесьці жыцьцёвага матарыялу. На аснове асобных адмоўных фактаў, якія мелі месца ў мінулым, і выдуманых сытуацыяў пісьменьнік робіць няправільныя абагульненьні, ачарняе нашу запраўднасьць, праяўляе непавагу да чалавека, прыніжае вартасьць гэраічных савецкіх людзей».

Пад канец рэдакцыя, як раней і сам аўтар, была змушаная абяцаць, што дапушчаныя ёю памылкі будуць напраўленыя. Аб гэтым чытаем даслоўна наступнае:

«Прызнаючы сваю памылку, рэдакцыя ў далейшай працы зьверне асаблівую ўвагу на якасьць твораў, якія рыхтуюцца да друку . . .

Нявычэрпная крыніца натхненьня для савецкага пісьменьніка — наша сацыялістычная рэчаіснасьць, штодзённыя гэраічныя подзьвігі савецкіх людзей. А компасам у працы для

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# А. Туранкоў ня жыве

На 73-ім годзе жыцьця памёр выдатны беларускі кампазытар Аляксей Туранкоў.

А. Туранкоў — аўтар опэры «Кветка шчасьця», пастаўленай на І дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве ў 1940 годзе, а пры нямецкай акупацыі перабленай аўтарам у «На Купальле», а таксама аўтар «Беларускай сюіты», выданай яшчэ ў 30-ых гадох.

Вялікія здольнасьці й любоў да народнае творчасьці далі змогу кампазытару працаваць у шматлікіх музычных жанрах. Нябошчык напісаў шмат песень і рамансаў на тэксты Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча й іншых паэтаў, а таксама шмат твораў інструмэнтальнага жанру, апрацовак народных песьняў, хораў і г. д.

Пасьля заняцьця Беларусі бальшавікамі ў 1944 годзе, кампазытар быў арыштаваны й высланы ў канцэнтрацыйныя лягеры, адкуль быў звольнены толькі ў 1956 годзе. Больш чымся дзесяцьцю гадамі жудаснага зьняволеньня мусіў заплаціць кампазытар за сваю любоў і вернасьць да беларускае музыкі, да Беларусі й ейнага народу.

(Ад рэдакцыі: У вадным з наступных нумароў нашае газэты будзе зьмешчаны абшырны артыкул аб жыцьці й дзейнасьці А. Туранкова).



**Канцлер Рааб вітае беларускую дэлегацыю**
(Гл. арт. Міжнародны кангрэс Пакс Романа ў Вене)

# Юбілейны хвальш і запраўднасьць

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

Аднак і «заходняя этнаграфічная мяжа» БССР ня мелася быць такой, як яе вызначалі бальшавікі у дэклярацыі другога абвешчаньня БССР. Як ведама, 12 ліпеня 1920 году, г. зн. у часе трыумфальнага паходу бальшавіцкай арміі на захад і пару тыдняў перад абвешчаньнем другой БССР, у Маскве была падпісаная мірная умова між Савецкай Расеяй і Летувой, паводля якой Масква аддае ў падарак Летуве паўночна-заходнія беларускія землі па лініі ад ракі Бобр да вусьця нёманскай Сьвіслачы, адсюль па Нёману да нёманскае Бярэзіны, Ісьлачы да Маладэчна (апошняе заставала з боку «расейскае» мяжы), і ад Маладэчна па рацэ Нарач, праз возера Мядзел да вазёраў Дрысьвяты, скуль па рэчцы Друя лінія злучалася зь Дзьвіной, пакідаючы, такім чынам, на летувіскім баку агромную тэрыторыю беларускіх земляў з Аўгустовам, Горадняй, Вільняй, Лідай, Ашмянамі, Паставамі, Браславам і іншымі гарадамі. Гэтая ўмова была ратыфікаваная бальшавікамі 9 верасьня 1920 году. Але-ж бальшавікі гандлявалі беларускімі землямі ня толькі зь Летувой. Падобны гандаль адбыўся таксама з Латвіяй, падпісаны у Рызе 11 жніўня й ратыфікаваны ў Маскве 11 верасьня 1920 году, ды праходзіў між імі й Польшчай яшчэ да падпісаньня Рыскага трактату 1921 году.

Будучы ў экстазе ўдачаў свайго паходу на Варшаву, бальшавікі марылі пра ўтварэньне Польскай Савецкай Рэспублікі. З гэтае нагоды яны «шчодрай» рукой аддавалі на аўтар будучае Савецкае Рэспублікі Польшчы цэлыя абшары беларускіх земляў. А пайменна, 17 ліпеня 1920 году бальшавікі адкідаюць ноту Лёрда Кэрзона аб спыненьні вайсковай бальшавіцкай акцыі ў раёне дэмаркацыйнай лініі, прынятай Найвышэйшай Альянцкай Радай і аб падпісаньні з Польшчай перамір'я, базуючыся пры разьвязаньні тэрытарыяльных пытаньняў на асновах лініі Кэрсона. Гэтая лінія, як ведама, пакідала на польскім баку ўсю Беласточчыну зь іншымі беларускімі землямі на захад ад Горадні. Адкідаючы ноту Кэрзона, бальшавікі прапануюць Палякам гэтае перамір'е на больш выгадных умовах, чымся вызначаліся Альянцкай Радай, пасульваючы пры гэтым змадыфікаваць лінію Кэрзона у карысьць Польшчы, калі толькі апошняя згодзіцца на адпаведную саветызацыю краю. Навет у такой атмасфэры распачаліся 14 жніўня перамовы бальшавікоў з Палякамі у Менску, якая аднак зьмянілася хутка пры звароце ў карысьць Польшчы на фроньце. Бальшавікі змушаныя былі ўцякаць спад Варшавы, цягнучы за сабой «заходнія этнаграфічныя межы» Беларусі, не прадаўшы іх на выгадных варунках. Такое было другое абвешчаньне БССР і «народнае волевыяўленьне» беларускага народу.

(Працяг будзе)

**П. Залужны**

# «Жыдоўскае пытаньне» ў СССР

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

«Фігаро», дзе былі выразныя антысэміцкія выказваньні.

На першы пагляд цьверджаньні, якія зьявіліся апошнім часам у савецкай прэсе, пярэчаць агульнаму выснаву аўтара артыкулу ў «Фактс», дзе чытаем: «Пэрспэктывы Жыдоў у Савецкім Саюзе вельмі змрочныя. У найлепшым выпадку — поўнае вынішчэньне калісьці квітнеючых й багатых культурных традыцыяў і жыцьця; у найгоршым выпадку — заканчэньне камуністымі агіднае справы, пачатае нацыстымі — ліквідацыя трох мільёнаў Жыдоў шляхам прымусовае асыміляцыі».

Савецкая-ж прэса піша цяпер аб Бірабіджане, як аб «квітнеючым цэнтры жыдоўскае культуры, індустрыі й сельскае гаспадаркі». У газэце «Советская Россия» з 6-га ліпеня г. г. гаворыцца аб «росквіце жыдоўскае культуры ў СССР», аб зьяўленьні жыдоўскіх газэтаў. Далей гаворыцца аб «шчасьлівым жыцьці» Жыдоў у Бірабіджане, якое параўноўваецца з «напоўгалодным» жыцьцём жыдоўскіх эмігрантаў у Ізраэлі.

Як мы сказалі, на першы пагляд — тут супярэчнасьць. Але гэта толькі на першы пагляд. Заходнія назіральнікі аднадумна падчыркваюць чыста прапагандовую мэту савецкіх заяваў аб Бірабіджане. Гэтымі заявамі бальшавікі намагаюцца прыкрыць перасьлед Жыдоў у СССР ды супрацьдзеіць прыцягальнай сіле Ізраэля. Да гэтага-ж у прыгадваным намі інтэрв'ю для газэты «Фігаро» Хрушчоў сказаў, што **экспэрымэнт зь Бірабіджанам быў памылкай.**

Вельмі магчыма, што сьведама распальваючы нізкія пачуцьці антысэмітызму сярод жыхарства, бальшавіцкі рэжым намагаецца зваліць на Жыдоў віну за безьліч рэчаў, за якія вінаватыя самі бальшавікі. У 1948 годзе яны расправіліся з жыдоўскай інтэлігенцыяй. Беларускую эліту сустрэў такі-ж лёс яшчэ раней. Аднак пэсымістымі быць ня маем права. Мы пэўныя, што ў вольнай Беларускай Народнай Рэспубліцы знойдуць сваё месца й Жыды, якім, як і ўсім іншым нацыянальным мяншыням, ужо 40 год таму — у II Устаўной Грамаце — былі забясьпечаныя ўсе грамадзянскія правы й умовы дзеля вольнага разьвіцьця свае культуры.

**У. Н.**

**ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ НА ЧУЖЫНЕ — ГЭТА ПАКАЗЬНІК НАШАЕ ГРАМАДЗКАЕ ЖЫЦЬЦЯЗДОЛЬНАСЬЦІ Й ДАКУМЭНТАВАНЬНЕ НАШАЕ ПРАЦЫ. ТАМУ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАЕ ГРАМАДЗКАЕ ПАДЗЕІ, ЯКАЯ-Б НЯ БЫЛА АДЦЕМЛЕНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЕ. ПІШЭЦЕ Ў «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**

---

— От Уладзік, — ціха сказала яна, калі гаспадыня разблытвала першую нітку другога матка. — Ён і потым быў такім дружным, харошым . . . Нездарма-ж вось і на фроньце...

— Там яны абодва, калі-б жывымі былі . . . — сумна сказала жанчына. — Узнагароды вялікія ў вабодвух. Навет бацьку й то далі ордэн, хоць пасьля сьмерці ўжо. Горад Стаўбуноў бралі, дык першым із сваім аддзяленьнем стары зайшоў у тыл ворага. У мяне такое апісаньне ёсьць, з часьці прыслалі.

IX

Мітрафан з Платонам таксама ўжо ўходавалі свой чыгун бульбы й цяпер сядзелі ўдвух каля печы, вялі сваю ціхую гаворку. Цімоша павячэраў раней і паімчаў некуды із студэнтамі, зь якімі яшчэ ў мінулую зіму разам бегаў у дзесяцігодку. Платон расказаў Мітрафану пра калгасных коней, скардзіўся на некаторых калгасьнікаў, што вельмі-ж не шануюць жывёлу. «Як-жа гэта можна? — абураўся стары. — Даў учора па загаду старшыні адной жанчыне падводу. Налажыў сена ў сані, каб было чым пакарміць тое цягло ў дарозе. Наказаў жанчыне, каб берагла кабылку. А яна, гэтая жанчына, што зрабіла? Заехаўшы ў двор, ськінула ўсё сена сваёй карове й цэлы дзень вазіла дровы на галоднай кабылцы. Прыгнала яе ў канюшню позна ўвечары, кінула не распрэжаную, мокрую й дрыжачую.»

Усю тую ноч качалася кабылка жыватом, і ўсю тую ноч Платон не адыходзіў ад яе, праклінаў і жанчыну, і старшыню, і свой пакутлівы лёс конюха.

Дзеля нейкай сваесаблівай асьцярожнасьці Платон не сказаў, хто такая была гэтая жанчына, аднак Мітрафан разумеў, што ўсе сьляды вялі да праславутай Кадрыліхі, бо ніхто іншы ў іхным калгасе так не зрабіў-бы. З мужчын хіба толькі Заткла. Разумеў Мітрафан, што й загнаная кабылка была ня так сабе жывёліна. У Платона, праўда-ж, і ня было на канюшні проста жывёлін, звычайнай цяглавай сілы. У кажнай загародцы спаяла сваеасаблівая істота, зусім адменная ад іншых і зусім не такая, як у іншых калгасах. Што-ж датычыць кабылкі, пра якую йшла гаворка, то гэта была адна із самых лепшых гадаванак Платона. Гэта тая самая Лысуха, якая яшчэ ў мінулую зіму была жаробкай і часам прыносіла старому конюху не мала прыемных клопатаў. Вырвецца, бывала, з канюшні й пайшла гуляць на выган, абмахне кругом вёску і ўжо ймчыць з другога канца вуліцы. Тут стары выходзіць на пярэсьцікі, расстаўляе рукі, і жаробка напружвае пярэднія ногі, уязджае капытамі ў сьнег. Рэдка калі яна асьмельвалася абмінуць Платона, а калі ўжо й абмінула, то на другім крузе абавязкова давалася ў рукі. Прыляціць, уткнецца мысаю ў Платонаў кажух і сапе вінавата й стомлена.

Размова крыху зацягнулася ў старых. Платон час-ад-часу памыкаўся ўстаць, каб ісьці на канюшню, але Мітрафан прытрымліваў яго, бо ведаў аб сабе, што не засьне да другіх пеўняў, як-бы ні стараўся. А што можа быць больш пакутлівей, чым бяссоньніца ў глыбокую ноч?

Мітрафан устаў, каб зачарпнуць сабе вады, а можа й Платону падаць, калі захоча, як у гэты момант, штурхнуўшы з разгону сенечныя дзьверы, убегла ў хату Даша.

— Бычка ўкралі! на бягу крыкнула яна й пачала хутка надзяваць ватоўку.

— Што? — не разабраў Мітрафан. — Якога бычка?

— У цёткі Настулі! — дадала дзяўчына. — Ідзеце хутчэй туды, а я пабягу скажу хлопцам!

Яна выбегла, навет не зачыніўшы хатніх дзьвярэй, а Мітрафан з Платонам, ня надта сьпяшаючыся, накінулі на плечы свае кажухі (перад чыгуном бульбы Платон распрануўся, хоць звычайна мог сядзець у кажусе хоць суткі ў любой цеплаце) і пайшлі на Андрэішын двор. Пакуль яны прыйшлі, Даша зьявілася з хлопцамі. Сярод іх быў і Цімоша. Як гулялі разам на вячорках, так і рынуліся адразу па Дашынай трывозе. У двары хлопцы пачалі крычаць, мітусіцца, падаваць розныя парады, а некаторыя лічылі самым лепшым пайсьці адразу на двор Кадрыліхі й абшукаць там усе закавулкі.

Мітрафан, пераглянуўшыся з Платонам, спыніў усю гэтую неразьбярыху. Хоць сваім звычным шэптам, але цьвёрда ён загадаў хлопцам ня вытароўваць лішне двор, а сам узяў з рук Андрэіхі ліхтар «лятучую мыш» і пайшоў ад хлява ў бок загуменьняў. Пакрочыў за ім і Платон. хутка яны вярнуліся й паказалі хлопцам, куды павялі сьляды: адзін чалавечы, другі бычыны. Відаць, ня надта дужы быў злодзей, бо ня нёс бычка на руках, а цягнуў яго збоку. Паколькі было яшчэ ня позна й жанкі хапіліся адразу, то сьляды не пасьпела занясьці.

Хлопцы пабеглі па сьлядох, некаторыя із студэнтаў вынялі свае электрычныя ліхтарыкі. Пабегла зь імі й Даша, а Мітрафан з Платонам пайшлі паціху, проста дзеля цікавасьці.

«Хто-ж гэта такі? — думала, бягучы, Даша. — Няўжо гэты самы Заткла, Кадрылішын паслугач?»

Уперадзе ўсіх імчаў Цімоша, ледзь ня ступня ў ступню за ім бег адзін даўганогі студэнт і асьвятляў ліхтарыкам сьляды.

— Вунь бычок! — узрадавана й трывожна крыкнуў Цімоша, павярнуўшыся да хлопцаў і паказваючы рукою ўлева ад сябе, у бок недалёкага пасёлку.

— Гэта сабака! — не паверыў студэнт.

Але ён памыліўся: ля землямерскага слупка ў полі, па жывот у сьнезе запраўды стаяў і калаціўся ад холаду Андрэішын бычок. Глянулі на сьляды ад слупка, і Цімоша кінуўся ўправа, бліжэй да агародаў. Хутка ён заўважыў, што ля платоў мятнулася нешта чорнае й пакацілася па сьнезе ў напрамку Кадрылішанага агароду. Гэта-ж самае заўважыла й Даша.

— Заткла! — крыкнула яна гучным дзявочым голасам. — Забягайце яму наперад, бо ўскочыць у гарод, дык там ня знойдзеце!

І толькі гэтае самае Заткла наважылася пераскочыць плянень, як Цімоша нагнаў яго й з разгону штурхнуў у плечы. Заткла войкнула й асунулася на гэтым-жа плятні, а тым што падбеглі пазьней, здалося, нібы злодзей усё-ж намерваецца скочыць далей, дык некаторыя зь іх таксама прыкладзіся па разу.

Заткла зьехала мордаю ў сьнег па той бок плятня й пачало жаласьліва, падзіцячаму плакаць і прасіцца:

— Біце, браткі, мяне, забівайце! . . Усёроўна ня жыць мне больш на сьвеце. Забівайце!

Голас мала быў падобны на Затклаў. Даша нахілілася над плятнём, студэнты пасьвяцілі. Чалавек ляжаў ніцма, закрыўшы рукавамі твар. Ізь сьнегу тырчалі старая аблезлая шапка-вушанка, відаць, зь летняга пужайла ў гародзе, і падраны кажух, падпяразаны вяроўкай. Хлопцы пералезьлі цераз плянень і ўзялі чалавека за рукі, каб падняць на ногі, але ён, стогнучы й войкаючы, вырваў свае рукі й зноў шуснуўся ў сьнег. Тады Цімоша ўзяў аберуч яго за галаву, перакруціў на бок, а студэнт уключыў ліхтарык.

— Васіль! — раптам спалохана й трывожна крыкнула Даша. — Вася, няўжо гэта ты?!

— Забівайце мяне, браткі, — зноў пачаў прасіцца чалавек, — канчайце на гэтым месцы, бо не хачу я больш жыць.

Гэта запраўды быў Васіль Печка.

Усім хлопцам стала няёмка: з аднаго боку — перад імі ляжаў, усё-ж такі, злодзей, якога з гарачкі можна было й выцяць і абразіць, якога трэба вось зараз-жа аддаваць у рукі мясцовай улады, а з другога боку, гэта — таварыш, сябра, зь якім ня так даўно разам вучыліся, разам бегалі па вуліцы. Даша таксама разгубілася, ня ведала, што рабіць.

(Далей будзе)

# Міжнародны кангрэс Пакс Романа

Ад 1-га да 7-га верасьня сёлета ў Вене адбыўся 24-ы сусьветны кангрэс Пакс Романа.

Пакс Романа — гэта адна з найбольшых міжнародных каталіцкіх арганізацыяў, якая гуртуе ў сабе каталіцкія арганізацыі акадэмікаў і студэнтаў усіх краін сьвету.

У зьезьдзе ўзяло ўдзел 1 200 дэлегатаў, у тым ліку й беларуская дэлегацыя на чале з а. Др. Ч. Сіповічам.

Беларускае Каталіцкае Акадэміцкае Аб'еднаньне было прынята ў сябры Пакс Романа ў 1953 годзе ў Рэймс (Францыя). Такім чынам мы былі прынятыя ў сям'ю вольных народаў. Краіны паняволеныя камунізмам, згодна із статутам Пакс Романа, рэпрэзэнтуюцца іхнымі арганізацыямі на выгнаньні. Пакс Романа — гэта, такім чынам, свайго тыпу арганізацыя задзіночаных нацыяў, з той толькі розьніцай, што там няма камуністычных прадстаўнікоў, як ў АЗН, якія там заместа супрацоўніцтва ўводзяць дэструкцыю.

Сусьветныя кангрэсы Пакс Романа адбываюцца што тры гады й кажны раз у іншай дзяржаве. Апошнія кангрэсы адбываліся ў Галяндыі, Францыі, Нямеччыне, Ангельшчыне й Канадзе.

Як сама арганізацыя Пакс Романа, так і яе кангрэсы маюць чыста акадэміцкі характар. Аб гэтым сьветчаць самыя тэмы кангрэсаў. Сёлета, прыкладам, тэмай было: «Унівэрсытэт і свабода».

Пасьля інаўгурацыйнай Багаслужбы, якую адслужыў Апостальскі Дэлегат у царкве сьв. Карля, усе ўдзельнікі кангрэсу й госьці сабраліся ў «Штадтгальле» на інаўгурацыйную сэсію, дзе былі прывітаныя бургомістрам гораду Вены, міністрамі аўстрыйскага ўраду, прадстаўнікамі Задзіночаных Нацыяў , высокімі царкоўнымі дастойнікамі й шматлікімі прадстаўнікамі розных народаў.

Ужо першы даклад праф. Рож'е з унівэрсытэту Ныймэгэн (Галяндыя) выклікаў ня толькі глыбокае зацікаўленьне прысутных, але й шырокае рэха ў прэсе, ды яшчэ да таго ў прэсе левага кірунку.

Прыкладам газэта «Arbeiter Zeitung» пісала наступнае: «...Пакс Романа заслугоўвае адно на падзіўленьне, а перадусім у пытаньні свабоды, як барамэтр духовых зьменаў, якія адбываюцца ў сьвеце ды таксама і ў самым каталіцызьме. Ужо першы даклад даў поўны довад аб існаваньні гэтых зьменаў. Галяндзкі вучоны прафэсар Рож'е гаварыў у сваім дакладзе на тэму «Праўда й яе абгрунтаваньне». Гэта чыста акадэмічная тэма, а таму на першы пагляд здавалася-б, што нельга спадзявацца, каб даклад меў рэвэляцыйную сілу думак. Прафэсар Рож'е сказаў ні менш ні больш, што каталікі маюць праўду па сваім баку, але кажнаму іншаму чалавеку справядлівага сэрца прызнаюць права на свае собскае перакананьне. Гэта й ёсьць самазразумелы запавет навуковага дасьветчаньня й свабоды думкі, які дэмакратычны сацыялізм ставіць за сваю мэту й прызнае. Гэты прынцып каталіцкая тэалёгія ня толькі прызнае, але яна кладзе яго ў васнову свайго жыцьця й грамадзкага ладу, і гэта з радасьцяй і задаваланьнем мы мусім прыняць да ведама...»

Акрамя дакладу Рож'е, яшчэ цэлы рад дакладаў было прачытана прафэсарамі з розных унівэрсытэтаў Ангельшчыны, Задзіночаных Штатаў, Францыі й Італіі. Пасьля дакладаў працавалі адмысловыя камісіі, якія грунтоўна дыскутавалі закранутыя праблемы й выпрацоўвалі рэзалюцыі, што пазьней будуць разасланыя адпаведным установам, якія будуць праводзіць іх у жыцьцё.

Кангрэс даў таксама нагоду ўдзельнікам яго запазнацца з мастацкімі й культурнымі помнікамі Вены ды іншых гарадоў Аўстрыі. Былі арганізаваныя наведваньні музэяў, палацаў, дзяржаўнага скарбцу, тэатраў і опэры, дзе ўдзельнікі мелі прыемнасьць пабачыць адмыслова прысьвечаную для іх праграму.

Асаблівае ўражаньне еднасьці народаў адчувалася на прыняцьці ў дзяржаўнага Канцлера ў палацы Шэйнбрун ды ў бургомістра гораду Вены, у старыннай прыгожай ратушы. Гэта была нагода для ўдзельнікаў кангрэсу навязаньня бліжэйшых кантрактаў, асабістага знаёмства, вымены думак ды навязаньня цясьнейшых вузлоў супрацоўніцтва між дэлегатамі паасобных народаў.

Кангрэс Пакс Романа ў сваім мазаічным складзе народаў бяз розьніцы расаў і клясаў, быў выявам волі й той вялікай маральнай сілы каталіцкай царквы, якая змагаецца за правы чалавека й свабоду народаў. Дык дай-жа Божа, каб збыліся словы аўстрыйскага Канцлера, які сказаў на прывітаньне беларускай дэлегацыі: «Я буду вельмі шчасьлівы, калі наступны кангрэс Пакс Романа будзе мець месца ў вольнай і незалежнай Беларусі».

**Дэлегат**

# Зь беларускага жыцьця

### АДКРЫЦЬЦЁ ШКОЛЫ ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ ДЗЕТАК

14 верасьня сёлета ў Беларускім Доме ў Таронта адбыўся бацькоўскі сход, які заняўся справаю арганізацыі беларускае школы для дзетак. Было пастаноўлена распачаць навуку малодшых дзетак, а ў хуткім часе заняцца й справаю старэйшых. Кіраўніком школы згадзіўся быць культурна-асьветны рэфэрэнт ЗБК мгр. М. Арцюх, а настаўнікамі — сп. сп.: В. Навіцкі — беларуская мова, мгр. А. Грыцук — гутаркі аб Беларусі, а. М. Мацукевіч, — рэлігія й сп-ня Н. Барановіч — сьпевы й танцы.

Пастаноўлена праводзіць заняткі ў школе кажнае сыботы раніцы ад 10-й да 12-й гадзіны, а дадаткова вучыць рэлігіі падчас нядзельнае службы ў царкве, калі дзеткі разам з бацькамі прыходзяць на багаслужбы. 20 верасьня ў сыботу адбылася ўжо першая ўступная лекцыя, праведзеная сп-ром В. Навіцкім. Радзім тым беларускім бацьком, што маюць дзяцей у школьным веку, а якія яшчэ не запісалі іх у школу, паразумецца у гэтай справе із сп-ром М. Арцюхом.

### СУПОЛЬНЫ СХОД СЯБРОЎ ПАРАФІІ БАПЦ І ЗБК

адбыўся ў Беларускім Доме 21-га верасьня. Была ўсебакова разгледжана й прадыскутавана справа куплі аднаго вызначанага аб'екту на царкву й дом ЗБК. Як ведама, Парафія БАПЦ і ЗБК ад даўжэйшага часу шукаюць у Таронта падыходзячага аб'екту для куплі на грамадзка-рэлігійны цэнтр. Справа ў тым, што ёсьць вялікія цяжкасьці, бо Таронта зьяўляецца найхутчэй растучым цэнтрам на амэрыканскім кантынэньце, у сувязі з чым цэны нярухомае маёмасьці тут страшэнна высокія. Усё-ж сябры нашых рэлігійнай і грамадзкай арганізацыяў маюць надзею, што цяжкасьці хутка дасца перамагчы й купіць нешта адпаведнае.

**М. К-р**

# УВАГА!

СЯРГЕЯ МАЗУРО, сына Пятра й Вікторыі, зь мястэчка Ўсялюб, Наваградзкага павету, — які праўдападобна знаходзіцца цяпер у Ангельшчыне, шукаюць сваякі з Амэрыкі.

Кажнага, хто чуў аб ім ці ведае ягонае месца жыхарства, просім паведаміць Рэдакцыю.

# Гісторыя „Дабрасельцаў“ ня скончылася

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

нас зьяўляюцца мудрыя ўказаньні камуністычнай партыі аб літаратуры. Асабліва важнае значэньне мае партыйны дакумант «За цесную сувязь літаратуры і мастацтва з жыцьцём народу» (гэтак было загалоўлена выступленьне Хрушчова ў 1957 годзе, якое закончыла пэрыяд хрушчоўскае «адлігі» й запачаткавала пэрыяд хрушчоўскае рэакцыі ў літаратуры й мастацтве — Рэд.).

Гісторыя з «Дабрасельцамі» Кулакоўскага, таксама як і гісторыя із сатырычнай п'есай А. Макаёнка «Каб людзі ня журыліся», аб чым таксама пісалася ў «Бацькаўшчыне» — гэта вымоўныя довады, што бунту супраць скоўваньня творчае свабоды, супраць выконваньня бяздушных партыйных дырэктываў у літаратуры й мастацтве, супраць г. зв. сацыялістычнага рэалізму не змагла прыдушыць і хрушчоўская рэакцыя.

## 10 год таму «Бацькаўшчына» пісала:

...Калі хто ня робіць нічога для агульнае справы, або, ня дай Божа, робіць ёй на зло й шкоду — той зраджае ня толькі свой народ і родную зямлю, але й сябе самога. Бо перад кажным з нас адно дзьве дарогі: або будзем вольнымі на вольнай сваёй зямлі й зажывём палюдзку, як жывуць іншыя ўжо здаўна, або будзем нікчэмнымі рабамі, здольнымі толькі йсьці у чужым ярме.

...Першым і найважнейшым заданьнем нашым ёсьць здабыць сабе тое, чым даражыць усё чалавецтва, за што змагаюцца ўсе бяз выключэньня народы на зямлі — здабыць сабе свабоду й незалежнасьць бо толькі з вольнымі Беларусамі будзе ўсякі лічыцца. Хто згодзен зь вялікай нашай мэтай і хоча нам шчыра дапамагчы — з тым і мы, для таго і ў нас хопіць беларускае сардэчнасьці й спагады, з тым і мы будзем бязумоўна салідарызавацца і яму, чым зможам, дапаможам.

**№ 30 (33), 3 кастрычніка 1948 г.**

**Артур Вольскі**

### ЛІСЬЦЕ СЫПЛЕЦЦА...

Плача восень,
Галосіць.
Лісьце сыплецца на тратуар.
І чаму ня прыносіць
мне ліста ад цябе
паштар?
Можа, адрас пад ліўнем ён страціў
і згубіўся між сотен лістоў?
Я тады перабраць іх
сваімі рукамі гатоў.
Можа, вецер свавольны
падхапіў той лісток
і знарок
па дарогах вакольных
міма дому майго
павалок.
Дождж апалыя лісьці сячэ —
восень вынесла ім прыгавор...
Можа, ты ня пісала яшчэ?
Гэта — горш...

### НЕ ЛЯЦІ

Сонца стомлена села
у разоры на дальніх палях.
Вецер пяты скалоў
і шурпатую пожню кляне.
Пералётныя птушкі
ў адвечны зьбіраюцца шлях.
Ты-ж ня птушка —
навошта ляціш ад мяне?
Птушкі ў вырай лятуць
ад асенніх дажджоў і слаты.
Птушкі зімнее сьцюжы баяцца.
А ты?
Не глядзі так самотна.
Расінку на вейках сьцяры.
Я сваю цяплыню
У завеях любых зьберагу.
Хіба могуць мяне астудзіць
маразы і вятры?
Сам магу я сьнегі растапіць,
Лёд расплавіць магу.
Птушкі зімнае сьцюжы баяцца.
Так заведзена ў іх у жыцьці.
Ты-ж ня птушка,
застанься са мной — не ляці!



# Колькі фактаў пра Фармозу

Сябра ангельскага Парляманту Вільям Тылінг зьмясьціў у газэце «Дэйлі Тэлеграф» цікавы артыкул п. наз. «Забытыя факты аб Фармозе.

В. Тылінг быў на Фармозе ў 1957 годзе, але ён ведае яе яшчэ з 30-х гадоў, калі гэты абток знаходзіўся ў руках Японцаў. У пачатку свайго артыкулу Тылінг аналізуе розьніцу думак эўрапэйскай і амэрыканскай грамадзкасьці што да лёсу Фармозы. Тылінг піша, што для значнай часткі ангельскай грамадзкасьці здаецца зусім неверагодным, каб Задзіночаныя Штаты ішлі на рызыку вайны з прычыны такога няважнага й такога далёкага ад Амэрыкі аб'екту, як Фармоза.

«Калі на нас уплывае блізіня Савецкага Саюзу, — піша ён, — дык на Амэрыканцаў уплывае блізіня кантынэнтальнага Кітаю які можа ў недалёкай будучыні стацца мацнейшым за СССР і ўрад якога ўжо цяпер заяўляе, што страта 300 мільёнаў людзей у атамнай вайне для яго нічога-б не азначала. Вось чаму, зусім магчыма, у амэрыканскай грамадзкасьці палітыка ўраду Задзіночаных Штатаў выклікае куды менш крытыкі, чымся ў грамадзкасьці эўрапэйскай».

Вільям Тылінг пераходзіць да апісаньня палажэньня на Фармозе:

«Першы раз я быў на Фармозе ў канцы 1935-га году. Я быў у ліку тых нешматлікіх эўрапэйцаў, якім японскі ўрад дазволіў наведаць гэты абток. Карэнныя жыхары Фармозы былі задаволеныя тым, што яны атрымоўвалі рэгулярна заработную плату, і былі ў баку ад вайны, якая вялася ў Кітаі. Але Японцы не дапушчалі іх ні на кіраўнічыя становішчы дзяржаўнай службы ці гандлю, ні на камандныя становішчы ў арміі. Такое палажэньне трывала да 1945 году. Таму няма дзіва, што пасьля цяжка было знайсьці сярод мясцовага жыхарства такіх людзей, якія-б былі здольныя займаць такія становішчы. Іх занялі Кітайцы. Але цяпер аўтахтоны паступова, набыўшы пэўнае дасьветчаньне ў адміністрацыйнай працы, высоўваюцца на гэтыя кіраўнічыя становішчы».

Тылінг прыгадвае, што падчас апошняе сусьветнае вайны Японія выкарыстала Фармозу, як сваю морскую й авіяцыйную базу дзеля нападу на Сынгапур і Інданэзію. Ён выказвае думку, што гэтае стратэгічнае значэньне Фармозы ўлічваецца й кітайскімі камуністымі. Калі-б пэкінскі рэжым захапіў Фармозу, ягонае войска апынулася-б у цэнтры тэй сыстэмы абароны, якую Задзіночаныя Штаты імкнуліся стварыць дзеля абароны сваіх заходніх берагоў і дзеля таго, каб перашкодзіць пашырэньню камунізму ў паўдзённа-ўсходняй Азіі.

Тылінг падрабязна спыняецца на пытаньні аб законнасьці прэтэнзіяў пэкінскага ўраду на Фармозу. Ён піша:

«Часта даводзіцца чуць думку, што Фармоза — гэта частка Кітаю. На самай справе — гэта зусім ня так. На працягу стагодзьдзяў, калі ў кантынэнтальным Кітаі адбываўся нейкі пераварот, сябры папярэдняга ўраду ўцякалі на Фармозу, падпарадкоўвалі мясцовае жыхарства й праз пэўны час прызнавалі над сабой уладу Кітаю. Так бывала ня раз да пачатку нашага стагодзьдзя, калі Кітай, паводля мірнае ўмовы зь Японіяў, перадаў ёй Фармозу «назаўсёды». На працягу наступных 50-ці гадоў Японія глядзела на Фармозу, як на сваю калёнію».

Тылінг адзначае, што Японія ўклала значныя сяродкі ў разьвіцьцё Фармозы. Японцы замацоўвалі Фармозу, разьвівалі яе сельскую гаспадарку. Яны засноўвалі рысавыя плянтацыі й плянтацыі чаю ды арганізавалі вытворчасьць цукру. Тылінг прыгадвае, што пры падпісаньні мірнае ўмовы зь Японіяй пасьля Другое Сусьветнае вайны пытаньне аб Фармозе ня было закранутае, і юрыдычна палажэньне гэтага абтоку застаецца няясным. Тылінг працягвае:

«Калі ў 1949 годзе Чан Кай Шэк і ягоныя аднадумцы знайшлі прыпынак на Фармозе, там было 6,5 мільёнаў жыхароў. Цяпер на Фармозе 10 мільёнаў. Аднак, за мінулыя 9 гадоў, адбылася асыміляцыя жыхарства. Фармоза вядзе вялікія экспартныя апэрацыі і жыцьцёвы ўзровень жыхарства стаўся куды вышэйшым, чымся ў кантынэнтальным Кітаі. Гэты факт прызнаюць усе аб'ектыўныя назіральнікі, якія наведалі Фармозу».

Тылінг падчырквае, што ніхто з прадстаўнікоў ураду Чан Кай Шэка, зь якімі яму давялося гутарыць, ня думае паважна аб нападзе на кантынэнтальны Кітай. Ён піша:

«Яны ўважаюць, што яны вернуцца ў Кітай, калі там адбудзецца нейкі нутраны пераварот. Але ніхто на Фармозе ня робіць плянаў нападу на кантынэнтальны Кітай бязь ніякае прычыны».

# Тыдзень бел. літар. у ЛССР

19-га верасьня г. г. у Віленскім драматычным тэатры адбылося ўрачыстае адкрыцьцё тыдня беларускай літаратуры ў Летувіскай ССР.

Зь беларускіх пісьменьнікаў на гэты тыдзень прыехалі ў Летуву П. Броўка, П. Глебка, М. Танк, К. Кірэенка, М. Калачынскі, Ул. Корбан, А. Вялюгін, І. Шамякін, П. Пестрак, А. Звонак, С. Грахоўскі, Т. Хадкевіч, А. Зарыцкі, П. Прыходзька, Н. Тарас, П. Макаль.

У сувязі з гэтай падзеяй у савецкай летувіскай прэсе шмат увагі прысьвячалася беларускай літаратуры, зьявілася шмат перакладаў твораў беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, гэтак, як раней, у часе тыдня летувіскай літаратуры ў БССР — рабіліся пераклады летувіскіх пісьменьнікаў.

Афіцыйна гэтая імпрэза называлася «Тыдзень беларускай літаратуры», хоць у запраўднасьці яе трэба было-б назваць тыднем **савецкай** беларускай літаратуры, бо-ж усё тое, з чым беларускія пісьменьнікі знаёмілі летувіскае грамадзтва зводзілася да іхных-жа соцрэалістычных «шэдэўраў» апошніх год.

Як падае савецкая прэса, беларускія пісьменьнікі пабылі ў цэлым радзе летувіскіх гарадоў.

Пры гэтай нагодзе Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету ЛССР узнагародзіў ганаровымі граматамі рад беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў «за заслугі ў справе папулярызацыі летувіскае літаратуры ў Беларусі».



## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Mr. V. Mickievič,** 47 Bd. de Bezons, Sartrouville (S. et O.).
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).


БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**